ГРОДНА
№10 (585),
15 мая 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Прага неба



stacja7.pl

*“Яны ўбачылі, як Ён узнёсся, і воблака забрала Яго з іхніх вачэй” (Дз 1, 9).*

на старонцы 2

## Адышоў у вечнасць ксёндз прэлат Ежы Лявінскі



grodnensis.by

*3 мая ў Доме міласэрнасці ў Каменцы (дэканат Шчучын) адышоў у вечнасць ксёндз прэлат Ежы Лявінскі, шматгадовы выкладчык Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.*

на старонцы 4

## Метады распазнавання плоднасці: дыялог двух любячых сэрцаў



pixabay.com

*Жыць у згодзе з сабой і задумай Творцы – радасць на ўсё жыццё, якая памнажае каханне, давер, павагу.*

на старонцы 7

# “ІТАЛЬЯНСКІЯ РЭСТАЎРАТАРЫ ЗДЗІВІЛІСЯ Б ТОЙ ПРАЦЫ, ЯКУЮ ЗРАБІЛІ НАШЫ МАЙСТРЫ”



Нац. санктуарый МБ у Будславе

*Разважаем пра актуальны стан цудатворнага абраза*

**Месяц таму будслаўскі абраз Маці Божай прайшоў чарговую рэстаўрацыю. Мы паразмаўлялі з калекцыянерам Ігарам Сурмачэўскім пра актуальны стан твора, яго гісторыю, сакрэт гістарычнай і сённяшняй папулярнасці. “Калі я асабіста думаю пра католікаў, першае, што прыходзіць мне ў галаву, – Будслаўская Божая Маці”, – кажа суразмоўца.**

на старонцы 3

# ВАЖНА МЕЦЬ ПРАКТЫЧНЫ ПАДЫХОД І ЗАСТАВАЦЦА ЧАЛАВЕКАМ



samaranin.by

*Сястра Часлава Навіцкая падчас урачыстасці св. Юзафа*

**У верасні 2018 года ў Мінску стартавалі першыя заняткі ў Хрысціянскім сацыяльным цэнтры “Дабрачынная Місія Добрага Самараніна пад апекай св. Уршулі Ледухоўскай”. Аб сучаснай катэхезе, выкліках, якія стаяць перад Касцёлам у сферы катэхізацыі, а таксама аб навучанні ў Цэнтры мы пагаварылі з дырэктаркай Місіі і Цэнтра сястрой Чаславай Навіцкай USJK.**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



*Маці Божая заўсёды жыла ў блізкасці з Панам. З першых хвілін Яе існавання ў Ёй прысутнічала гэтае інтэнсіўнае і неабсяжнае ўзрушэнне, увесь час узрастаючае ў сіле, якое ўводзіла Яе ў сэрца Бога, падтрымлівала ў сувязі з Ім ва ўсіх намерах і жаданнях, усіх думках і пачуццях. Марыя пастаянна знаходзілася ў прысутнасці Бога, таму што цалкам аддала сябе Яму, нічога не пакідаючы сабе.*

*Гэтага ўзрушэння любові, якое сама перажыла, усім сэрцам і душой Ёй хочацца для нас. Бо Марыя Маці, Маці Жыцця, а Жыццём з'яўляецца Яе Сын. Не будзем пазбаўляць Марыю радасці перадаваць нам гэтае Жыццё цалкам, ва ўсім, чым мы ёсць і што робім, без адкладвання, ужо цяпер, тым больш, што ў нас ёсць асаблівая магчымасць зрабіць гэта.*

*Перажываем самы прыгожы месяц у годзе, які захапляе харашством кветак і далікатнасцю іх водару. Поўны зеляніны, сонца і цяпла. Давайце ахвяруем гэты час найпрыгажэйшай з жанчын – Марыі, таму што Яна дала і працягвае даваць нам Езуса, чулая да кожнай чалавечай крыўды, умее бачыць дабро ў сваіх дзецях.*

*Марыя запрашае нас на маёвыя набажэнствы, каб разам з Ёю пакланіцца Езусу і прысвяціць Яму сваё жыццё. Дык прымем гэтае ўнікальнае запрашэнне!*

*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**16 мая**

***Успамін св. Андрэя Баболі, прэзбітэра і мучаніка.***

*Св. Андрэй Баболя нарадзіўся ў 1591 годзе, а ў 1611 уступіў у ордэн Таварыства Езуса. Пасля вучобы ў Віленскай акадэміі і прыняцця святарскага пасвячэння быў накіраваны на душпастырскую службу. З 1636 года працаваў сярод уніятаў, сцвярджаючы іх у каталіцкай веры. Быў схоплены праваслаўнымі казакамі і жорстка забіты ў Янаве Палескім 16 мая 1657 года.*

**21 мая**

***Успамін св. Яна Непамуцкага, прэзбітэра і мучаніка.***

*Св. Ян Непамуцкі нарадзіўся каля 1350 года. Як генеральны вікарый Пражскай архідыяцэзіі ён абараняў правы Касцёла і пайшоў супраць караля Вацлава IV, які загадаў яго забіць і кінуць у раку Влтаву 20 сакавіка 1393 года. Рэліквіі св. Яна спачываюць у катэдры св. Віта ў Празе (Чэхія).*

**23 мая**

***31-ая гадавіна біскупскага пасвячэння пастыра дыяцэзіі.***

*Молімся ў інтэнцыі ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча і яго плённай апостальскай паслугі ў Гродзенскай дыяцэзіі.*

**24 мая**

***Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Успамогі Хрысціян.***

*Многія святыя мелі асаблівае набажэнства да Маці Божай Успамогі Хрысціян. Яе знакамітая выява ў Турыне (Італія) была замоўлена св. Янам Боска, які, акрамя салезіянаў, заснаваў кангрэгацыю Сясцёр Дачок Маці Божай Успамогі Хрысціян. Месцам, дзе некалі быў найбольш пашыраны культ Дапаможніцы, была Баварыя (Германія). Першы ў Баварыі Касцёл Дапаможніцы Хрысціян быў узведзены ў Пасау ў 1624 годзе. У ім праславіліся статуя Маці Божай, копія абраза Кранаха, – пілігрымы вітаюць яе воклічам: "Марыя, дапамажы".*

# ПРАГА НЕБА

*працяг са с. 1*

***Кс. Юрый Марціновіч***

Расставанні цяжкія. У момант, калі хтосьці з блізкіх нас пакідае, адчуваем пустату, разбітасць, адзіноту. Але ў той жа час мы больш выразна бачым, кім была асоба, з якой развітваемся. Мы ўсведамляем, што яна нам дала, чаму навучыла і колькі добрага пакінула пасля сябе. Адчуваем сябе яе спадчыннікамі. Яе дух становіцца часткай нашай ідэнтычнасці. Нешта заканчваецца, але таксама заўсёды нешта пачынаецца, адкрываецца нейкі новы этап.

Расставанне з бацькамі, з настаўнікам ці майстрам азначае неабходны крок да сталасці, самастойнасці, адказнасці за іншых, за працяг справы, пераняцце спадчыны.

Уваскрослы Пан непасрэдна перад сваім канчатковым вяртаннем да Бога Айца таксама дае сваім вучням апошнія інструкцыі. Ён перадае ім місію, абяцае Святога Духа і блаславўляе "узброены моцай з вышыні". Уваскрослы па-ранейшаму будзе прысутнічаць у сваім Касцёле, але гэтая прысутнасць будзе мець ужо іншы характар. Ён больш не можа быць з вучнямі фізічна, як чалавек, але будзе з імі праз свайго Духа. Святы Дух з'яўляецца Духам Айца і Сына. Чалавечнасць Езуса была пасудзінай, у якой Бог аддаў сябе свету, цяпер наша чалавечнасць, памазаная "моцай з вышыні", павінна быць пасудзінай, праз якую Бог працягвае ўдзяляць сябе свету. Езус быў дасканалым начыннем, мы ж гліняныя начынні, якія можна разбіць. Але мы ўзброены Духам, які цярпліва дапаўняе нашы недасканаласці.

Св. Павел называе Касцёл Целам Езуса. Гэтая карціна адлюстроўвае праўду аб працягу справы Хрыста ў нас. Галава Касцёла, гэта значыць Езус, знаходзіцца ў небе, а Яго Цела, гэта значыць мы, – на зямлі. Можна сказаць, іх. Справа, распачатая Езусам, павінна працягвацца ў Касцёле, а апосталы павінны быць сведкамі Езуса, гатовымі нават праліць сваю кроў.

Хрыстос, пакідаючы гэты свет, абяцае вучням, што яны не будуць адны. Будуць што хрысціянін – гэта чалавек, які цвёрда крочыць па зямлі, а галаву трымае ў небе. Мець галаву ў небе – значыць жыць у еднасці з Тым, да каго накіроўваемся. Мець галаву ў небе – значыць быць пілігрымам, а не бадзягам. Той, хто ведае пункт прызначэння вандроўкі, глядзіць на свой шлях з гэтай канечнай перспектывы. Таму не паддаецца злу.

Ідэнтычнасць чалавека вызначаецца не толькі яго мінулым, але і надзеяй на будучыню. Наша праблема ў тым, што мы занадта лёгка губляем галаву, адпускаем свае думкі і жаданні разбягацца ва ўсе бакі, накіроўвацца куды заўгодна і за кім заўгодна. Мець галаву ў небе – значыць мець большую надзею, чым любая зямная мэта, значыць дыхаць вечнасцю нават у зямной атмасферы.

Бог выйшаў з неба з любові да чалавека, таму, калі чалавек хоча трапіць у нябёсы, ён таксама павінен ісці шляхам любові. Падзякуем Богу за Яго бясконцую любоў да нас і скажам Яму тое, што кажа святар, які цэлебруе св. Імшу ва ўрачыстасць Унебаўшэсця Пана ў малітве пасля Камуніі: "Усемагутны Божа... абудзі ў нас прагу неба, дзе Хрыстос як першы з людзей прабывае з Табою".

**"Уваскрасенне Пана – наша надзея. Унебаўшэсце – наша праслаўленне. У дзень свайго нараджэння Пан засведчыў, што з'яўляецца сапраўдным чалавекам. У дзень свайго ўнебаўшэсця Ён засведчыў, што Ён сапраўдны Бог. Пасля магілы – неба, пасля крыжа – трон. Да ліку несмяротных далучаецца смяротная натура. На нябесны трон сядае зямное цела" (св. Аўгусцін).**




*"Унебаўшэсце Пана", Бенвенута Цізі, 1520 г.*

**Урачыстасць Унебаўшэсця Пана адзначаем 26 мая.**

# "ІТАЛЬЯНСКІЯ РЭСТАЎРАТАРЫ ЗДЗІВІЛІСЯ Б ТОЙ ПРАЦЫ, ЯКУЮ ЗРАБІЛІ НАШЫ МАЙСТРЫ"

працяг са с. 1

Размаўляў Арцём Ткачук

***– Адкуль узяўся абраз Маці Божай у Будславе?***

– Вядома, што яго прывёз мінскі ваявода Ян Пац. Ён перайшоў з кальвінізма ў каталіцтва, і менавіта за гэта Папа падарыў яму абраз. У той час Папам быў Клімент VIII, яго свецкае імя – Іпаліт Альдабрандзіні. Ён нарадзіўся ў Фларэнцыі і паходзіў з роду, у якім была вялікая прага да калекцыянавання мастацкіх твораў. Таму і Папа меў слабасць да мастацтва, збіраў вакол сябе мастакоў, у тым ліку ў Ватыкане. У яго таксама была калекцыя карцін і, як кожны калекцыянер, ён перыядычна яе чысціў. Напэўна, слабейшыя творы дарыў. Так абразы, падораныя папам Клімантам VIII, ёсць у Кракаве і Львове.

***– Калі адкінуць сімвалічнасць і важнасць абраза для Беларусі, а паглядзець выключна на яго мастацкую вартасць – будслаўскі абраз асаблівы?***

– Для нас, для ВКЛ і Рэчы Паспалітай гэта надзвычайны твор, нават на той час – пачатак XVII стагоддзя. Для Італіі гэта ўсё-такі была радавая рэч. У той час там працавалі Рубенс і Тыцыян. Трэба, канешне, усведамляць суадносіны ўзроўню іх твораў і будслаўскага абраза. Аднак у сакральным плане ён усё ж важнейшы для нас, чым Тыцыян.

***– На рэнтгенаўскіх здымках абраза без шатаў бачны плямкі. Што гэта?***

– Чорныя плямкі – гэта "выпады", страты, якія немагчыма вярнуць. Справа ў тым, што ў абраза свой лёс. У Італіі ён жыў адным жыццём, калі ехаў да нас, – іншым. Ян Пац, уласнік абраза, вельмі яго любіў і паўсюль вазіў з сабой. Гэта не было чымсьці незвычайным у той час: той жа Ян Сабескі вазіў з сабой любімыя абразы. На прыпынках ставіўся паходны алтар, і ўсе перад ім маліліся.

Лак, якім пакрываецца абраз, ахоўвае жывапіс, але ён цямнее праз 50 гадоў. Раз на паўстагоддзя палатно нанова пакрываецца лакам. Пабудавалі адзін будслаўскі касцёл – абраз перанеслі і лак аднавілі, пабудавалі яшчэ адзін – перанеслі ў новы алтар і аднавілі, з чорнага алтара пазней перанеслі ў новы касцёл, які стаіць да сёння, і зноў аднавілі. Кожнае перамяшчэнне абраза патрабавала аднаўлення лаку. Таму і здараліся гэтыя "выпады" ў XVII, і ў XVIII, і ў XIX стагоддзях. І рэстаўратару вышэйшай катэгорыі Аркадзю Шпунту прыйшлося пад цэйсаўскім мікраскопам здымаць



**Ігар Сурмачэўскі –** рэстаўратар, калекцыянер і мецэнат. Каталіцкі вернік.

усе аднаўленні, якія рабіліся раней, і рабіць іх ужо новымі фарбамі і матэрыяламі. У тыя часы, калі абраз рэстаўрыравалі і аднаўлялі, цэйсаўскай оптыкі не было.

***– Ці можна сёння сказаць, колькі такіх слаёў лаку за ўсю гісторыю ўжо было накладзена на гэты абраз?***

– Тут не магу сказаць. Мінулым разам ён рэстаўрыраваўся ў пачатку 1990-ых Віктарам Лукашэвічам. Гэта яшчэ пры кардынале Казіміры Свёнтэку. Тады не зрабілі дакладную фотафіксацыю працэсу рэстаўрацыі, таму невядома, колькі ў той час было знята слаёў. Але ў цэлым можна ўявіць, колькі разоў абраз аднаўлялі. Напісаны ён быў у 1596 ці 1598 годзе. І з таго часу кожныя 50 гадоў праходзіў такую працэдуру.

***– У якім стане сёння будслаўская ікона?***

– Ці ёсць на сёння ў нашага абраза нейкія праблемы? Можна сказаць, што ён увесь час знаходзіцца ў экстрэмальных умовах. Касцёл жа не ацяпляўся, у свой час там была зроблена вельмі дрэнная гідраізаляцыя. Ёсць фотафіксацыя з 70-80-ых гадоў мінулага стагоддзя, і там бачна,





Рэнтгенаўскі здымак абраза

што вільгаць праступіла разам з зеленню на сценах і скляпеннях касцёла. Для палатна і ляўкасу гэта падобна смерці. Каштоўныя абразы зберагаюцца па-іншаму.

Для прыкладу возьмем Маці Божую Уладзімірскую XII стагоддзя. Яна ўстаўлена ў адмысловую капсулу з бронябойнага шкла, у якой падтрымліваецца тэмпература 16 градусаў і вільготнасць 60%. Менавіта такая атмасфера спрыяе добраму захаванню. А ў Будславе народ прыйшоў у касцёл, надыхаў – вільготнасць адна. Сышоў – вільготнасць іншая. Да таго ж змяняюцца поры года і разам з імі ўвесь час змяняецца тэмпературны рэжым. А ўявіце, які стрэс быў для іконы падчас пажару, ці калі яна пілігрымавала на рэстаўрацыю, а тут якраз уключылі ацяпленне і вільготнасць у лепшым выпадку складала 30%.

***– Можа быць, Вам вядома што-небудзь пра планы паляпшэння ўмоў захавання абраза? Напрыклад, змяшчэнне ў такую вось капсулу.***

– Гэта, канешне, было б ідэальна. Аднак я ведаю, што, напрыклад, капсула для Таропецкага (ці інакш Полацкага) абраза XII стагоддзя каштавала амаль мільён даляраў.

***– Ох, гэта шмат! Скажыце, я чуў, што папскія кароны ў свой час былі прыкручаны да абраза шурупамі…***

– Цяпер ужо ўсё цалкам па-новаму зроблена. Над абразом працавалі лепшыя рэстаўратары па жывапісе і па метале, якія, дзякуй Богу, ёсць у Беларусі. Ніякіх шурупаў вы больш не ўбачыце. Усё зроблена так, як павінна быць – на самым высокім узроўні. На еўрапейскім. Я думаю, і італьянскія рэстаўратары здзівіліся б той працы, якую зрабілі нашы майстры.

***– Вы ўзгадвалі, што металічныя шаты былі не адныя. Ці захаваліся якія-небудзь з іх да нашых дзён?***

– Увогуле абраз быў напісаны на палатне, а пад ім быў тонкі шчыт з хвойкі. Гэта было зроблена, каб на яго можна было прыбіваць шаты. Людзі ўпрыгожвалі абраз рознымі падарункамі, вотамі. Не ведаю, ці захаваліся шаты. Гэта ж тычыцца і выяў цудаў, якія здзейсніліся ля абраза. Калі адбудоўвалася новая мураваная святыня, у той час яны і зніклі.

Таксама трэба памятаць, што сакральныя рэчы нярэдка пілігрымавалі паміж Будславам і Вільняй – у адзін і другі бок. Напрыклад, калі будаваўся мураваны будслаўскі касцёл, стары алтарны абраз Адведзінаў Паннай Марыяй св. Альжбеты быў вывезены ў касцёл св. Францішка і Бярнарда ў Вільні.

***– Дэ-факта на абразе намалявана італьянка. Аднак беларус хіба ніколі не пагодзіцца, што гэта італьянка.***

– Ён скажа, што гэта літвінка (смяецца – заўв. аўт.). Гэта правобраз літвінкі.

Калі зняць шаты, то там на фоне нябёсы перад заходам сонца. Яны такія срэбна-цёплыя, з пераходам у бірузу. Дык вось, калі я ўяўляю гэты фон, адразу на думку прыходзяць нябёсы Італіі. Менавіта тыя нябёсы, што акружалі мастака, які пісаў абраз. А мы можам думаць, што гэта заход сонца ля ракі Сэрвач.

***– Будслаўская Мадонна малявалася з натуры?***

– Не. Я мяркую, што не.

***– Ці можна параўнаць актуальны культ Маці Божай Будслаўскай з бялыніцкім культам, які існаваў на нашых землях? Гэта параўнальныя ўзроўні?***

– Так, канешне. Можна нават параўнаць яго з культам Чэнстахоўскага абраза. Чорны алтар у касцёле ў Будславе рабіўся ў той жа час, калі рабіўся чорны алтар для Чэнстаховы. Будслаў меў вялізнае значэнне ў сакральным жыцці беларусаў.





Рэстаўрацыя абраза Аркадзем Шпунтам

Справа ў тым, што раней бернардынцы былі "народнымі" святарамі. Уніяты таксама былі вядомыя і папулярныя, менавіта таму пасля скасавання Уніі ў 1839 годзе скасавалі таксама бернардынцаў. У іх былі такія квестары, якія збіралі паўсюль ахвяраванні на свае кляштары. Яны ездзілі па маёнтках, і кожны шляхціц лічыў гонарам даць ім ахвяраванне. Таксама пры ўсіх бернардынскіх кляштарах былі школы, бурсы (інтэрнаты для вучняў). Менавіта таму культ бернардынскіх святынь, а адной з самых знакавых з'яўляецца абраз Маці Божай у Будславе, быў такім распаўсюджаным. Гэта ўжо пасля скасавання кляштараў у 1830-ых і 1860-ых гадах будслаўскі культ пачаў занепадаць. Асабліва ў савецкія часы.

Дзякуючы кардыналу Свёнтэку культ адрадзіўся і пачаў узрастаць нанова. І, напэўна, зойме тое месца, якое і павінен.

***– Ці можам сёння сказаць, што будслаўскі абраз ужо стаў сімвалам Беларусі?***

– Я думаю, так. Ён такі ж сімвал, як Жыровіцкі абраз. Калі я асабіста думаю пра каталікаў, першае, што прыходзіць мне ў галаву, – Будслаўская Божая Маці. У маёй бабулі ў куце заўжды вісеў абраз Маці Божай Вастрабрамскай. Яна нават была з пілігрымкай у Вільні ў 1908 годзе. У дзяцінстве ў маёй сям'і быў менавіта вастрабрамскі культ. А ўжо сёння для мяне Будслаў стаў больш сваім. Я не маю на ўвазе нейкую замену Вострай Брамы, проста Будслаў стаў ці становіцца бліжэй да сэрца.

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Папа Францішак выдаў два хірографы, якія датычаць ватыканскіх установаў

Першы хірограф з'яўляецца следствам нядаўна апублікаванай апостальскай канстытуцыі Praedicate evangelium, з дапамогай якой Папа здзейсніў рэформу Рымскай курыі. Апостальская канстытуцыя набудзе моц 5 чэрвеня, а да гэтага часу, як тлумачыць Святы Айцец у сваім новым хірографе, неабходна пераглядзець Агульны статут Рымскай курыі, які дзейнічае да гэтага часу.

Другі хірограф датычыць стварэння новай структуры – фонду Domus Vaticanae, які аб'ядноўвае фонды, кіруючыя трыма інтэрнатамі для біскупаў, кардыналаў і святароў, што нясуць паслугу ў Рымскай курыі: Домам св. Марты, Рымскім домам святара, Міжнародным домам імя Паўла VI, – і Домам св. Бенедыкта.

### У Ватыкане будуць аднаўлены казармы Швейцарскай гвардыі

Дакумент падпісалі Дзяржсакратар кардынал П'етра Паралін, старшыня Фонду П'ер Рот і віцэстаршыня Штэфан Кун. На цырымоніі прысутнічаў пасол Швейцарскай Канфедэрацыі пры Святым Пасадзе.

Зала Друку Апостальскай Сталіцы паведаміла, што, "хоць пратакол не з'яўляецца юрыдычна абавязваючым дакументам, ён сведчыць пра супольную волю бакоў працаваць у адпаведнасці з ватыканскім і міжнародным правам над забеспячэннем лепшых і экалагічна чыстых жылых умоў для гвардзейцаў, іх сем'яў і тых, хто дапамагае ім рознымі спосабамі".

Працы па рэканструкцыі казарм распачнуцца па завяршэнні Юбілею 2025 года пры ўмове, што будзе забяспечана фінансаванне канчатковага праекта і атрыманы неабходныя дазволы.

### Ватыканская абсерваторыя можа ўчыніць рэвалюцыю ў ведах пра космас

"Адкрыццё астраномаў з Ватыканскай абсерваторыі можа рэвалюцыянізаваць разуменне таго, як паўстаў Сусвет, і праліць новае святло на тэорыю Вялікага выбуху", – заявіла прэс-служба Святога Пасаду. Даследчыкі распрацавалі новы матэматычны метад, які дазваляе лепш апісаць паходжанне Сусвету.

Езуіт кс. Габрыэле Гіёнці і кс. Матэа Галавернін паставілі пад сумнеў існуючыя да гэтага часу матэматычныя разлікі і такім чынам адкрылі поле для новых даследаванняў, якія могуць прынесці зусім новыя высновы, адрозныя ад раней папулярызаваных. Яны паставілі пад сумнеў менавіта слушнасць матэматычнай тэорыі аб гравітацыі, названай тэорыяй гравітацыі Бранса-Дзікі, і прапанавалі цалкам новую мадэль вылічэнняў.

### Малітоўныя інтэнцыі на май

#### паўсюдная

Молімся, каб маладыя людзі, пакліканыя да паўнаты жыцця, адкрылі ў Марыі прыклад слухання, глыбіню распазнання, адвагу веры і прысвячэнне сябе служэнню.

#### дыяцэзіяльная

Молімся аб святых і адданых святарах для нашай дыяцэзіі.

## АДЫШОЎ У ВЕЧНАСЦЬ КСЁНДЗ ПРЭЛАТ ЕЖЫ ЛЯВІНСКІ – СТАРЭЙШЫ КАТАЛІЦКІ СВЯТАР БЕЛАРУСІ




Пахавальная ўрачыстасць кс. прэлата Ежы Лявінскага сабрала ўдзячнае духавенства і вернікаў

працяг са с. 1

*Кс. Юрый Марціновіч*

Пахавальная св. Імша ў інтэнцыі памерлага святара, які на нашых землях пашыраў культ Езуса Міласэрнага, з удзелам біскупаў, шматлікіх святароў, манаскіх сясцёр і вернікаў была адпраўлена 6 мая ў гродзенскім касцёле Адшукання Святога Крыжа (пабернардынскім). Пахаванне адбылося ў Гродне на Старых могілках.

Ксёндз прэлат Ежы Мар'ян Лявінскі нарадзіўся 2 студзеня 1930 года ў Дзятлаве. Разам з сям'ёй быў вывезены ў Сібір. Вышэйшую духоўную семінарыю скончыў у Сандаміры (Польшча), там жа 29 мая 1955 года біскуп Ян Лорка ўдзяліў яму прэзбітэрскае пасвячэнне.

У савецкія часы ездзіў на душпастырскую працу ў Беларусь, Расію і Казахстан, дзе па меры магчымасці абвяшчаў Евангелле, цэлебраваў Імшу, спавядаў. Пасля шасці гадоў душпастырскага служэння быў накіраваны на вучобу ў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт, пасля заканчэння якога абараніў кандыдацкую дысертацыю па кананічным праве. З 1968 па 1990 гады працаваў у дыяцэзіяльнай курыі ў Сандаміры. З пачатку існавання Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне быў яе выкладчыкам, некаторы час прэфектам. З'яўляўся Ганаровым капеланам Яго Святасці, Грэміяльным канонікам Сандамірскага капітула, Ганаровым канонікам Гродзенскага капітула.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ГЕРМАНІЯ.** Клопат пра людзей, якія пакутуюць ад дэменцыі, і іх сваякоў – галоўная тэма сёлетняга нямецкага Экуменічнага тыдня на карысць жыцця. Яго адкрылі ў Лейпцыгу 30 красавіка 2022 года католікі і лютэране. Агульнанацыянальная кампанія праходзіла да 7 мая пад дэвізам "Пасярод жыцця з дэменцыяй". Шматлікімі мерапрыемствамі Цэрквы прыцягвалі ўвагу да становішча людзей з гэтым сіндромам і іх сваякоў, а таксама садзейнічалі гуманнаму падыходу да іх. Падчас інаўгурацыйнага набажэнства ў лютэранскім храме св. Мікалая ў Берліне віцэ-старшыня нямецкага каталіцкага епіскапату біскуп Франц-Ёзэф Бодэ заявіў, што годнасць чалавека не залежыць ні ад яго здароўя, ні ад разумовых здольнасцей, ні ад магчымасці самавызначэння.

**СІРЫЯ.** У Хомсе прайшла сустрэча сірыйскай моладзі пад патранажам Супольнасці Тэзэ. Такое мерапрыемства праводзілася ў краіне ўпершыню. У ім удзельнічала каля 800 маладых людзей ва ўзросце ад 18 да 25 гадоў. Палова з іх з Хомса, астатнія – з іншых сірыйскіх гарадоў. Усіх прымалі мясцовыя сем'і. Нягледзячы на намаганні, самім братам з Тэзэ не ўдалося прыехаць у Хомс. Аднак яны падрыхтавалі праграму і малітвы. Ад іх імя сустрэчай кіраваў французскі езуіт кс. Вансан дэ Бакудрэ, які вось ужо тры гады з'яўляецца моладзевым душпастырам у Хомсе.

**ФРАНЦЫЯ.** Рэканструкцыя Нотр-Дам дэ Пары ўступае ў самую далікатную фазу. "Мы спадзяёмся, што да канца 2024 года Сабор Нотр-Дам дэ Пары будзе зноў адкрыты для вернікаў і наведвальнікаў, – прызнаўся пробашч парыжскай катэдры ў інтэрв'ю Vatican News. – Мы пачынаем трэці этап рэканструкцыі, самы далікатны. Перабудуем скляпенне над нефам і ўмацуем іншыя яго часткі. Вядуцца працы над формай даху і аднаўленнем шпіля. Усе тры будоўлі праводзіцца адначасова. Спадзяёмся, што ў канцы 2024 года можна будзе ўвайсці ў катэдру".

**ІСПАНІЯ.** У краіне адбываюцца напады на хрысціян. За Вялікі тыдзень зафіксавана 19 выпадкаў. Самай складанай атакай была рэклама, якую выкарыстала на плакатах па ўсёй Іспаніі сетка Burger King, здзекуючыся з Вялікага тыдня. Для папулярызацыі іх найноўшага прадукту – гамбургера без мяса – у крыху змененай форме былі выкарыстаны словы Пана Езуса з Апошняй Вячэры: "Бярыце і ешце з гэтага ўсе. Гэта не ўтрымлівае мяса. 100 працэнтаў вегетарыянскі. 100 працэнтаў смаку. Big King Vegetal". Пасля палемікі, выкліканай рэкламай, і байкоту кампаніі, да чаго заклікалі ў сацыяльных сетках, Burger King папрасіў прабачэння за свае дзеянні і абвясціў аб знялцці антыхрысціянскай рэкламы.

***Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.***

# КАРАЛЕВА ВЯРТАЕ СВАЮ МОЦ, АБО ПРА КУЛЬТ МАЦІ БОЖАЙ БЯЛЫНІЦКАЙ

**"Беларуская Чэнстахова". Такую ганаровую назву носіць невялічкае мястэчка Бялынічы на ўсходзе нашай краіны. У далёкім XIII стагоддзі гэтае месца для свайго ўшанавання абрала Маці Божая, і, дзякуючы цудатворнаму абразу, Яе культ у свой час быў неверагодна моцны.**

*Размаўляла Ангеліна Марцішэўская*



Пра страчанае і набытае размаўляем з пробашчам бялыніцкай парафіі кс. Юзафам Сярпейкам.

***– Копіі абразоў Маці Божай Бялыніцкай захоўваюцца ў касцёлах Беларусі, Польшчы і нават у праваслаўных святынях. Аднак сёння пашана да Мадонны з Бялынічаў не мае адпаведнай моцы. Кс. Юзаф, які гістарычны момант, на Вашую думку, стаў пераломным у заняпадзе культу?***

– Сапраўды, Маці Божую Бялыніцкую ўшаноўвалі нават пратэстанты, улічваючы, што яны ўвогуле не вызнаюць Марыю. Цяпер няма той моцы, якая была папярэдне. Даследуючы асабіста гісторыю культу Маці Божай Бялыніцкай, я звязваю яго заняпад з датай 10 лютага 1876 года – днём смерці апошняга перад доўгім перапынкам пробашча мясцовай парафіі кс. Люцыяна Гадлеўскага. Чаму я так лічу? Бо пасля яго смерці маёмасць Касцёла перайшла ў праваслаўнае ведамства. Згодна з адной з навуковых крыніц аўтарства Вацлава Навакоўскага, кс. Гадлеўскага, які быў чалавекам харызматычным і вялікім дабрадзеем, атруцілі. Дарэчы, тады ў Бялынічах ужо была праваслаўная царква. І парадаксальна тое, што пабудаваў яе менавіта кс. Люцыян – знайшоў спонсараў. Святыню ўзвялі мураваную. З тых жа крыніц В. Навакоўскага, які наведаў Бялынічы праз 23 гады пасля смерці кс. Люцыяна, мы ведаем, што ён "з вялікім смуткам назіраў за ўсім, што там адбывалася *(пасля адыходу касцёла праваслаўным – заўв. аўт.)*". Праваслаўныя спрабавалі развіваць культ, але яго папярэдняй моцы амаль не засталося. Пры царскай уладзе яны былі вымушаны нават прадаць карону, якой быў каранаваны абраз Маці Божай Бялыніцкай, бо колькасць пілігрымаў паменшылася і адпаведна стала менш матэрыяльнай падтрымкі.

***– Сёння ў Беларусі вялікай пашанай цешыцца Маці Божая Будслаўская, а Яе санктуарый лічыцца галоўнай святыняй краіны. Як мяркуеце, ці можа гэта замінаць вяртанню былой усебеларускай славы Маці Божай Бялыніцкай?***

– Гэта гучыць не па-хрысціянску. Так сталася, што паводле Провіду развіўся культ Маці Божай Будслаўскай. Напрыклад, нішто не замінае Марыі, якая аб'явілася ў Лурдзе, аб'явіцца ў Фаціме ці ў Гвадэлупе. Калі справа сапраўды Божая – яна будзе развівацца. Калі мае настаяцелі, біскупы – а яны з'яўляюцца наступнікамі Хрыста на зямлі – бачаць патрэбу ў тым, каб развіваць культ у Бялынічах, то я лічу, што гэта Божая воля.

***– У крыніцах шмат узгадак пра цуды праз заступніцтва Маці Божай Бялыніцкай. Сярод іх маштабныя, як цуд у Ляхавіцкім замку, і прыватныя. Падзяліцеся, калі ласка, цікавым з апошніх.***

– Перад каранацыяй абраза *(1761 год – заўв. аўт)*, каб спраўдзіць, што Маці Божая Бялыніцкая сапраўды цудатворная, у 1750 годзе была склікана камісія ксяндзоў. Разглядаліся ў асноўным цуды фізічнага аздараўлення. Мне на думку прыходзіць узгадка пра выпадак ацалення, калі пэўная праваслаўная сям'я прывезла да абраза амаль мёртвае дзіця. Што магло стаць прычынай такога стану? Ды нават невылечаная прастуда з-за халоднай земляной падлогі ў хаце.

***– Нядаўна каля бялыніцкага абраза былі змешчаны вота – срэбныя бляшкі ў форме сэрцаў, ружанец і заручальны пярсцёнак. То-бок, цуды працягваюцца?***

– Цуды – гэта заўсёды плён малітвы. А вота – форма падзякі за іх. Напрыклад, згаданыя Вамі вота ў форме сэрцаў – гэта падзяка ад сужэнскай пары Тумаш. Я іх добра ведаю, гэта здарова набожныя людзі. У інтэнцыі іх аздараўлення ад цяжкіх наступстваў кавіду было ахвяравана 30 св. Імшаў. Аднак памятаю, як яна *(Галіна Тумаш – заўв. аўт.)* пазваніла мне і вельмі кволым голасам пачала развітвацца. Шчыра кажучы, пасля я чакаў званка ад іх дзяцей з паведамленнем, што маму і тату пахавалі. Аднак здарыўся цуд.

Вота – гэта таксама просьба. Мы маем яшчэ заручальны пярсцёнак ад мужчыны, які просіць аб добрым мужы для сваёй дачкі. Маем залаты пярсцёнак ад жанчыны, якая моліцца аб навяртанні сваіх дзяцей.

***– Якія крокі прымаюцца з боку вернікаў і духавенства, каб культ Маці Божай Бялыніцкай пачаў набіраць былую моц?***

– Наколькі мы адважныя, каб казаць, што хочам адраджаць культ? Я не ведаю, якая далей будзе Божая воля. Але бачу: Марыя дае намацальныя знакі, што хоча вярнуцца ва ўсёй велічы. Напрыклад, адзін са святароў дае сведчанне, што ў Новай Мышы, дзе таксама размяшчаецца абраз Маці Божай Бялыніцкай, шматлікія вернікі пішуць запіскі з просьбамі, закладваюць за ікону, а пасля ўжо прыносяць шматлікія запіскі з падзякамі. Я чуў, што там мноства яскравых цудаў.

Гэты давер да Марыі і з'яўляецца крокам з боку вернікаў. Мы таксама намагаемся распаўсюджваць інфармацыю даступнымі сродкамі – сайт, кнігі і г. д. Будзем рабіць надалей, што магчыма. Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі надала таксама тытул Каралевы Беларусі Маці Божай Бялыніцкай. Апостальская Сталіца пасля зацвердзіла гэта. Адпаведны тытул быў дададзены і ў Літанію.

***– У 2017 годзе з боку ксяндза біскупа Аляксандра Яшэўскага SDB прагучалі словы, што беларускі Касцёл плануе аднавіць санктуарый у Бялынічах. Што адносна гэтага чуваць на дадзены момант?***

– Так супала, што ў 2017 годзе мяне папрасілі стаць пробашчам у бялыніцкай парафіі, і я прыняў прапанову з вялізным энтузіязмам.

Каб атрымаць зямлю пад святыню, нам патрэбна звярнуцца ў райсполкам, але папярэдне атрымаць дазвол ад апарату Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Там яны вырашаюць, ці патрэбна католікам святыня і ці не ўзнікне пагроза даўгабуду. Мы звярнуліся туды адзін раз – нам адмовілі. Другі – адмовілі. Аднак у выніку мы атрымалі згоду на пабудову касцёла! Цяпер знаходзімся на этапе падрыхтоўкі ўсіх патрэбных дакументаў, пасля – праектныя працы.

Калі мы звярталіся за дазволам і атрымлівалі адмовы, я ўбачыў, як людзі пачалі апускаць рукі, яны не хацелі такой сітуацыі. Але мяркую, што Госпаду было важна ведаць, наколькі трывалы наш намер. Ці годныя мы ўдзельнічаць у такой вялікай справе, як будова касцёла. Усе замінкі – гэта Божая справа, бо Ён хоча адпаведна нас падрыхтаваць.

# ВАЖНА МЕЦЬ ПРАКТЫЧНЫ ПАДЫХОД І ЗАСТАВАЦЦА ЧАЛАВЕКАМ

*працяг са с. 1*

***Размаўляла Кацярына Паўлоўская***

Адукацыйная прапанова Цэнтра вельмі шырокая і, акрамя катэхезы, уключае ў сябе шмат разнастайных заняткаў, у тым ліку для дзяцей і моладзі з асаблівасцямі развіцця.

***– Ваш Цэнтр даволі ўнікальны для Беларусі і для каталіцкай адукацыі ў нашай краіне. Ці адчуваеце Вы гэта?***

– Ці адчуваю я гэтую ўнікальнасць? Не бачу тут нічога выняткавага. Мне здаецца, што гэта нармальна, што Касцёл павінен так працаваць, павінен выходзіць да людзей, быць з людзьмі. Дарэчы, да гэтага нас і папа Францішак заклікае. Я б не сказала, што мы нешта надзвычайнае робім. Кожнае месца, парафію ці нейкую ўстанову, нават іншага веравызнання, дзе абвяшчаецца Божае слова, дзе кажуць пра Бога, можна назваць унікальнымі. Вось гэта я б падкрэсліла.

***– Пры дапамозе якіх метадаў Вы навучаеце дзетак? Чым Цэнтр адрозніваецца ад іншых месцаў, дзе таксама ёсць заняткі па вакалу ці нейкія інфарматыўныя курсы?***

– Калі казаць пра месцы, то наша ў тым сэнсе, можа, выняткова, што тут ёсць капліца: у сэрцы нашага Цэнтра – Найсвяцейшы Сакрамант, сама прысутнасць Жывога Бога. Таксама фармацыя асобы. У розных аспектах: непасрэдна хрысціянскі падыход, рэлігійная сімволіка, патрабаванні, зразуменне. І канешне, калі казаць пра метады, то іх шмат. Асноўны заключаецца ў тым, што асоба пазнае іншыя дысцыпліны ў святле хрысціянскай фармацыі, у святле Дзесяці Божых запаведзяў, якія павінны стаць падмуркам для кожнага чалавека.

***– Што датычыць катэхезы, падрыхтоўкі да прыняцця Першай Камуніі, дзеці ходзяць на яе "ў сябе" пры касцёле і да Вас асобна ці гэта неяк спалучаецца ў Цэнтры?***

– Дзеці, якія прыходзяць стала да нас, удзельнічаюць у катэхезе. Канешне, калі бацькі хочуць, каб дзіця тут займалася вакалам, а да катэхезы яшчэ "не даспелі" і будуць прыглядацца, то мы можам на такое пагадзіцца. У большасці людзі прыходзяць мэтанакіравана і ведаюць, чаго хочуць. Інакш бы гэта трошкі разыходзілася з мэтай Цэнтра.

Ёсць дзеці, якія не ходзяць да нас штодзённа, але прымаюць удзел у а-ля нядзельнай школе, як пры парафіях, і рыхтуюцца да Першай споведзі, да Першай Камуніі.

Шмат ёсць і тых, хто прыходзіць проста як такі назіральнік. Мы іх, канешне, не змушаем да ўдзелу ў рэлігійных абрадах. І праз некаторы час – год-два – яны звяртаюцца да нас ужо з просьбай аб падрыхтоўцы да прыняцця сакрамантаў. Людзі прыглядаюцца, спазнаюць і прыходзяць да высновы, што хочуць прыняць каталіцкую веру або прыступіць да тых ці іншых сакрамантаў, бо, можа, былі ахрышчаныя, але не практыкавалі. Гэта радуе.

***– Часцей бывае наадварот. Частка дзяцей і моладзі перастае ўдзельнічаць у фармацыі ў касцёльным асяроддзі пасля Першай споведзі, прыняцця Першай св. Камуніі і сакраманту канфірмацыі. Гэта натуральная з'ява ці нешта трэба змяніць у класічнай катэхезе? Што варта пераняць катэхетам у супольнасцей, якія спецыялізуюцца на фармацыі дзяцей і моладзі?***

– Я думаю, тут і адно, і другое. Не важна, уршулянкі там ці нейкая іншая супольнасць, перадусім – абвяшчэнне Хрыста. Метадаў, можна сказаць, тысячы, але самае галоўнае ў катэхезе – той, хто навучае. Не важна, свецкая гэта асоба, сястра ці святар. Важна, каб катэхет сам гарэў справамі Хрыста, сведчыў пра Хрыста. Калі ён гарэць не будзе, нічога з гэтага не выйдзе.

Сёння, скажам, ёсць нейкая праблема, якую мы назіраем. Сотні дзяцей ідуць да Першай св. Камуніі, а потым раз – і іх у касцёле няма, іх гэта не цікавіць. Я сама разважала над такім пытаннем і думаю, што трэба індывідуальна падыходзіць да кожнай сітуацыі. Гэтае дзіця, катэхізаваны, мог прыняць урок рэлігіі на ўзроўні толькі ведаў, магло не дайсці да сустрэчы з Жывым Хрыстом, а толькі з нейкай Асобай, пра якую дзеці трохі даведаліся. Магчыма, трошкі ў іх ёсць такога страху, як некаторыя кажуць, што Бог пакарае, калі што-небудзь здарыцца.



Навучэнцы Цэнтра падчас кулінарнага майстар-класа

Калі б дзеці падчас катэхезы спаткалі Езуса, які б стаў для іх Сябрам і ад якога залежыць іх жыццё, я думаю, не здарылася б так, што яны адышлі. Нават калі б маладая асоба адышла на некаторы час, яна б усё роўна вярнулася назад, да Бога. Мне здаецца, што калі ты дасведчыш Жывога Хрыста і пасля будзеш знаходзіцца ўвесь час у пошуках, мець мноства розных пытанняў, нават балючых, то ты будзеш абмяркоўваць іх са сваім Сябрам, з Езусам.

***– Ці можам мы сказаць, што існуе праблема падрыхтоўкі катэхетаў, каб правільна даносіць веру?***

– Гэта адказнасць Касцёла, і ён зрабіў нямала ў дадзеным напрамку. Прытым, як бачна, свет ставіць чарговыя выклікі і Касцёл не можа стаяць на месцы. Ён павінен шукаць новыя метады, як трапіць да чалавека, як яму дапамагчы. Думаю, у нейкім сэнсе Касцёл гэта робіць і шукае больш актуальныя метады катэхізацыі.

Калі казаць пра фармат, то кожны катэхет павінен усвядоміць сабе, што ён ні настаўнік матэматыкі, хіміі ці іншай навуковай дысцыпліны, а перадусім сведка Хрыста, які сведчыць сваім жыццём, а вучням патрэбен прыклад жывой веры. Тэалагічныя веды вельмі важныя, бо катэхет не можа навучаць ерасі. У Касцёле існуе кананічная місія, якая асобе свецкай ці манаскай сястры дае дазвол на навучанне. Ёсць катэхетычныя візітатары, якія павінны ездзіць і слухаць катэхетычныя заняткі: не толькі вучняў, але і тых, хто вядзе катэхезу, каб сапраўды чалавек даносіў праўды веры, а не ерась. Кожная дыяцэзія адказвае за сваіх катэхетаў.

Пры гэтым самае важнае – сведчанне веры, тое, што заўсёды будзе людзей, дзяцей за сабой цягнуць, таксама, як у сям'і. Сям'я – гэта такі хатні Касцёл. У нас у большасці выпадкаў здараецца так, што дзеці навяртаюць бацькоў. Дзеці першыя прыступаюць да саркамантаў, а потым прыводзяць бацькоў. Павінна быць наадварот, што мама і тата адказваюць за рэлігійнае выхаванне сваіх дзетак. Ёсць і так, і так, але, канешне, нашмат лягчэй дзіцяці прыйсці да веры і дасведчыць Бога як любячага Айца, калі гэтае дзіця будзе бачыць, як ягоны тата стаіць на каленях, як разам з ім моліцца. Тое самае ў выпадку катэхета. Калі ён будзе сведчыць пра Жывога Бога, будзе гарэць Хрыстом, канешне, дзеці за ім пойдуць.



Сястра Часлава з навучэнцамі Цэнтра падчас паездкі ў Ракаў

А метад – гэта проста быць і заставацца чалавекам. Так, канешне, трэба перадаваць тэалагічныя веды, дзяліцца Божым словам, Бібліяй, але калі жыццё катэхета будзе гэтаму супярэчыць, то плёну не будзе. Моладзь яшчэ знойдзе інфармацыю, дачытае, але сведчанне ўжо цяжка знайсці. Калі катэхет будзе навучаць аднаму, а рабіць іншае, то гэта трэба адразу спыняць, бо гэта абурэнне і вялікая рана.

***– Ці сустракаецца праблема тэалагічна няправільнага навучання з боку катэхетаў?***

– Сустракаецца, і тут першая важная справа – не баяцца пра гэта казаць. Нам такая сітуацыя падаецца нейкім даносам, і калі чалавек адзін, другі раз сказаў ды "атрымаў па вушах", то ён ужо падумае: навошта я пайду казаць. Насамрэч, нічога новага. Мы з Евангелля ведаем, як Пан Езус казаў пайсці і дакарыць свайго брата, напачатку асабіста, а калі не паслухае, то і далей (параўн. Мц 18, 15–17). У дыяцэзіі павінен існаваць катэхетычны аддзел, дзе ёсць катэхетычныя візітатары. Нельга сказаць: "Ай, чарговыя праверкі". Часам трэба паехаць і паслухаць, што чалавек кажа, паслухаць людзей у парафіі – каб не было ерасей.

У нас сёння вельмі шырокі доступ і да масмедыя, і да літаратуры, і да Бібліі на розных мовах, і да разнастайных каментарыяў. Трэба звяртацца да такіх крыніц, каб не навучаць ерасям.

Такія навучальныя ўстановы, як нашы катэхетычныя каледжы, – гэта добрая і вялікая справа, бо нейкі час таму не было нічога. Думаю, Касцёл будзе ўсё больш развівацца ў дадзеным напрамку. Я яшчэ б рабіла націск на далейшай фармацыі катэхетаў. Катэхет, катэхетка будзе мець шмат пытанняў, і калі ён, яна не знойдзе падтрымкі, то маладому хлопцу ці дзяўчыне будзе цяжка. Людзі будуць ісці да іх з рознымі пытаннямі, а ў іх яшчэ ў саміх яны паўстаюць. Таму я лічу, што павінна быць фармацыя, адказнасць за гэтых людзей, падтрымка і пасля каледжа.

***– Ці ёсць што змяняць у кантэксце наяўнасці тэхнікі? Можа, таксама ў выкладанні катэхезы варта дадаць больш крэатыву?***

– Калі спачатку інтэрактыўная дошка, камп'ютэр, экран былі чымсьці новым, то цяпер, мне падаецца, людзі ўжо перасыціліся гэтым усім. Гэта толькі адзін са сродкаў, які можа дапамагаць, і ў кожнай беларускай парафіі, калі не інтэрактыўная дошка, то экран і ноўтбук ёсць напэўна. Дзякуй Богу, бо з іх дапамогай мы можам выкарыстоўваць больш розных актыўных метадаў пры выкладанні катэхезы. Пры гэтым, каб сустрэць Жывога Бога, чалавек усё роўна шукае нешта ў душы, капае глыбей, і без жывой асобы гэтай сустрэчы не адбудзецца. Патрэбен чалавек, каторы сапраўды мае пакліканне, каторы не баіцца і ўсведамляе, на які шлях выходзіць. Гэта не значыць, што трэба быць невядома якім дасканалым. Важна мець практычны падыход, заставацца чалавекам і не баяцца праблем ды цяжкасцей, а таксама заўсёды ісці з дапамогай кожнаму чалавеку.

# СТАЛЕННЕ З МАРЫЯЙ



***Яна Чайко***

Неяк так сталася, што культ Марыі я пазнала ўжо ў сталым узросце, хоць мая сям'я была вельмі веруючай, а прабабуля ў маіх успамінах і нават на дзіцячых здымках са мной заўсёды з ружанцам у руках. Памятаю, калі я была падлеткам, усе сябры і моладзь з касцёла збіраліся ў Тракелі, і мне прыйшлося ісці разам, каб не заставацца адной. Вось так гэтыя 18 кіламетраў сталі першым крокам у маіх зносінах з Багародзіцай.

Я сталела, разам з тым павялічваліся кіламетры да Маці – Будслаў, Тракелі, Гудагай, Вострая Брама, Чэнстахова, Лурд... Кожнае з гэтых месцаў пакінула велізарны след у маім жыцці. Гэта людзі, важныя рашэнні, новы вопыт і ўзрастанне ў веры. Менавіта пілігрымкі – пешыя ці аўтамабільныя – навучылі мяне аднаму правілу: Марыя заўсёды выслухае. Як у штодзённым жыцці мы бяжым адразу да маці, так і да Нябеснай Мамы варта бегчы. Просьбы, складаныя праз Яе заступніцтва, выслухоўваюцца часцей – гэта такі лайфхак, які сапраўды працуе.

Другім крокам да больш блізкіх зносін з Марыяй быў моладзевы Ружанец, на які мы збіраліся раз на тыдзень. Пасля забаў ці размоў за гарбатай вельмі важна было суцішыцца і засяродзіцца на супольнай Ружанцовай малітве. Гэтая традыцыя перарасла ў звычку і прагненне да падзякі Маці за кожны добра праведзены час.

З часоў моладзевага ўзрастання прайшло ўжо трохі часу, і гэта застаецца добрым падмуркам. Праз усё жыццё, куды б я ні пайшла і з кім бы ні была, Марыя прыцягвае мяне да сябе і заўсёды аказваецца дзесьці побач. Гэта яснае пацвярджэнне таго, што Яна сапраўды Маці. Навучыцца б яшчэ быць такім жа сапраўдным дзіцём для Яе...

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# Я ПАЙШОЎ У КРАМУ ПА ХЛЕБ, А ДАДОМУ ПРЫНЁС ДЗВЕ ТОРБЫ...



**Кс. Павел Салабуда,** *псіхолаг*

Назва сённяшняга разважання вельмі часта сустракаецца ў жыцці многіх з нас. Прапаную засяродзіцца над эфектамі маніпуляцыі ў рэкламе і над тым, як рэклама ўплывае на нас.

Сёння становіцца ўсё больш людзей, якія маюць цяжкасці з правільным планаваннем расходаў. Нягледзячы на тое, што ў нас у кашальку ўсё менш грошай, факт празмерных і неабачлівых пакупак можа тычыцца многіх. Гэта вынік таго, што мы сутыкаемся ў жыцці з рознымі відамі маніпуляцый, якія свядома і несвядома ўплываюць на наша жыццё. На жаль, сучасная рэклама насычана маніпулятыўнымі прыёмамі. Перш за ўсё, варта адзначыць, што навокал узнікае ўсё больш буйных крам, якія заклікаюць іх наведваць і прапануюць вельмі вялікую колькасць розных рэчаў, што адносяцца практычна да кожнай сферы нашага жыцця. У такіх крамах можна і паесці, і адпачыць, і заняцца спортам, і схадзіць за пакупкамі – карацей кажучы, правесці цэлы дзень, а можа, нават тыдні, аддаць свае лепшыя дні.

Не выклікае сумненняў, што рэклама адыгрывае найважнейшую ролю ў развіцці эканомікі і вельмі цесна звязана з нашым жыццём. Дзеля цікаўнасці, першай рэччу, якую разрэкламавалі ў Штатах, быў гадзіннік. З тых часоў многае змянілася, і рэклама цяпер займае ў штодзённасці многіх людзей вельмі значнае месца. Толькі спачатку яна мела інфарматыўны характар, а сёння яна маніпулятыўная. На жаль, нам мала кажуць пра тое, што рэклама таксама згубна ўплывае на чалавека, і нават больш – агрэсіўна ўздзейнічае на нашу псіхіку.

Спецыялісты па рэкламе для дасягнення ўласных мэт выкарыстоўваюць розныя прыёмы маніпуляцыі. Усприймлівы да такога ўздзеяння чалавек ужо свядома перакананы, што рэклама дазваляе яму самастойна зрабіць выбар. Ён робіць памылку, таму што рэклама займаецца стварэннем ілюзіі, у якую мы проста пачынаем верыць.

**Прапаную азнаёміцца з папулярнымі маніпулятыўнымі метадамі ўздзеяння на наша мысленне:**

***1. Фарміраванне вобраза ведання тавару.*** Напрыклад, у буйных крамах на адной паліцы ляжыць шмат такога ж тавару, але ад розных вытворцаў, і мы возьмем той, пра які чулі раней.

***2. Стварэнне ілюзіі дасведчанасці пра прапанаваны прадукт.*** Чалавек атрымлівае ад вытворцы некатораю інфармацыю (што можа быць нават ілжывай), якая адрознівае гэты прадукт ад іншых, і мы трапляем у пастку, нібыта ўжо ўсё ведаем пра тавар.

***3. Маніпуліраванне навуковымі фактамі,*** каб даказаць, што прадукт найлепшы.

***4. Наданне прадукту пэўных грамадска важных уласцівасцей.*** Напрыклад, для мужчын рэкламуецца туалетная вада, якая дапамагае здабыць жаночую сімпатыю. Так ствараецца ілюзія поспеху, якая падабаецца многім. Нібыта, купіўшы дарагі аўтамабіль, вы станеце паспяховым чалавекам.

***5. Стварэнне міфа, што так робяць усе.***

Кожнаму з нас варта памятаць, што рэклама падобна на вірус, які хутка распаўсюджваецца. Сёння не выклікае сумненняў, што рэклама вельмі эфектыўная і добра працуе ў нашым жыцці. Але яна працуе на іншым узроўні – не на інфарматыўным. Рэклама ўздзейнічае на нас скрытым чынам, мы гэтага проста не заўважаем. Каб упэўніцца ў гэтым, прапаную паспрабаваць правесці эксперымент: адзін дзень схадзіць за пакупкамі ў вялікую краму, а іншым разам – у маленькую. Розніца будзе вельмі прыкметная.

# ЛЮБОЎ – ЯКАЯ ЯНА?

**Бажэна Панасевіч**

Быць чалавекам – значыць быць у адносінах, быць ва ўзаемадзеянні з кім-небудзь. Па-іншаму, больш пранікліва, "узаемадзеянне" – гэта судакрананне, сувязь, узгадненне, зладжаная праца. Ужо з самай раніцы мы пачынаем судакранацца з іншымі людзьмі: з роднымі, мінакамі, калегамі, сябрамі, – словам, поглядам ці цялесным кантактам, напрыклад, абняўшы кагосьці. Бл. Кардынал Стэфан Вышынскі сказаў: "Чалавек раскрывае сваю асобу ў тым, як ён ставіцца да іншых".

Мы не можам без адносін, таму што створаны паводле вобразу Бога: "І сказаў Бог: «Учынім чалавека паводле Нашага вобразу і Нашага падабенства». [...] І стварыў Бог чалавека паводле свайго вобразу, паводле Божага вобразу стварыў яго, стварыў мужчыну і жанчыну" (Быц 1, 26–27).

Слова "нашаму" паказвае, што Бог не з'яўляецца адзінокай і самадастатковай істотай. Бог ёсць адзін у трох боскіх Асобах: Бог Айцец, Сын Божы і Святы Дух. Ён супольнасць, вечны абмен любові.

І Ён, усемагутны Бог, бясконца дасканалы і шчаслівы, заклікае чалавека да жыцця ў паўнаце, любові і радасці разам з Ім. І ў той жа час Ён так узвысіў нас сярод усяго створанага, што надзяліў свабодай, каб мы з уласнай волі шукалі Яго Твар.

Цяпер модна казаць: "Самы галоўны ў жыцці чалавек – ты сам". І гэта праўда. Бо мы 24/7 з сабою. На жаль, часта мы грэбуем пазнаннем сябе: сваіх пачуццяў, думак, не разумеем нават, што нам падабаецца, а што – не, чаго жадаем, а чаго – не. Мы цалкам аддаём сябе адносінам з іншымі людзьмі. Але найважнейшыя адносіны ў нашым жыцці – гэта "я" і "Бог".

Святы Аўгусцін маліўся: "Пане Езу, дай мне спазнаць сябе і спазнаць Цябе, і ні да чаго іншага не імкнуцца, як толькі да Цябе". Многія навукоўцы, асабліва тыя, якія вывучаюць складаныя нейрапрацэсы ў чалавеку, пачыналі задумвацца аб існаванні кагосьці больш Вялікага, хто б мог усё гэта прыдумаць і ўвасобіць. "Слаўлю Цябе, бо я дзівосна зладжаны. Дзівосныя дзеі Твае, і душа мая ўсведамляе гэта" (Пс 138, 14).

Спазнаваць сябе – значыць судакранацца са сваёй душой, сваім сэрцам. У Бібліі слова "сэрца" часта сустракаецца побач са словам "думкі": "Ведаючы, аб чым яны думаюць, Езус сказаў: «Чаму ў вас у сэрцы такія злыя думкі?»" (Мц 9, 4). Чаму ў цябе злыя думкі наконт сябе? Чаму не верыш, што Бог любіць цябе такім, які ты ёсць цяпер? "Больш за ўсё запаветнае захоўвай сэрца тваё; бо ў ім – крыніца жыцця" (Мдр 4, 23).

Так, зазіраючы ўнутр сябе, у гэтую таемную і невядомую глыбіню, дзе можа быць цёмна і холадна, можна сустрэцца з дасканалай



і бескарыслівай любоўю, можна сустрэцца з Богам. Ён цярпліва чакае цябе. Не навязваецца. "Вось стаю каля дзвярэй і стукаю. Калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзверы, увайду да яго і буду вячэраць з ім, а ён са Мною" (Ап 3, 20).

Аб сваёй любові да чалавека Бог, які "шмат разоў і па-рознаму прамаўляў калісьці да айцоў нашых праз прарокаў, у гэтыя апошнія дні прамовіў да нас праз Сына" (параўн. Гбр 1, 1–2). Я ўзяла самае кароткае Евангелле – паводле Марка, – каб паглядзець, як жыве Езус, як Ён кантактуе з людзьмі, што гаворыць, як праяўляе любоў. Бо год ад года нам усё цяжэй любіць сябе, навакольных і Бога. Як сказаў адзін вельмі мудры чалавек: "Любоў – гэта занадта крута. Не кожны гэта пацягне".

Чытаючы Евангелле, я ўбачыла ў Езусе вялікую пакорлівасць, цярплівасць, прыняцце іншага з яго болем, адкрытасць, дабрыню. А ў Яго вачах не было ні кроплі асуджэння. Ён вучыў і вучыць лагоднасці і пакоры. На жаль, у наш час цярплівасць, пакора і міласэрнасць лічацца слабасцю. Гэта не модна. Бо трэба ад чагосьці адмаўляцца, ахвяраваць, а ў свеце столькі ўсяго "смачнага", столькі ўсякіх забаў. Канешне, гэта ўсё не дрэнна...

Маці Тэрэза казала: "Сапраўдная любоў прычыняе боль. [...] Гэта павінна быць балючым – кагосьці любіць, пакутлівым – яго пакідаць, і хочацца за яго памерці". "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Ян 3, 16).

Дык што ж такое любоў? Я б адказала так: "Любоў доўгацярплівая, любоў ласкавая, не зайздросціць, любоў не пыхлівая, не ганарыцца" (1 Кар 13, 4). Як Бог цярплівы да цябе, будзь і ты цярплівы не толькі да іншых людзей, але і да сябе.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Ці верыць, што калі ажаніцца ў маі, то ўсё жыццё будзеш "маяцца"?

**grodnensis.by**

*Народнае павер'е мае вытокі ў кельтскай культуры. Старажытныя кельты на пачатку мая адзначалі свята Белтэйн (Beltane), падчас якога заключаліся г. зв. "пробныя сужэнствы". Сужэнцы маглі скасаваць такі саюз без усялякіх наступстваў, адсюль і меркаванне, што майскія шлюбы нетрывалыя.*

*Акрамя таго, паводле традыцыі старажытных рымлянаў, у маі праходзілі г. зв. лемураліі (Leműralia) – святы памерлых. Лічылася, што падчас іх на зямлю сыходзяць злыя духі, а вясельныя ўрачыстасці могуць іх угнявіць, у выніку чаго духі нават могуць забраць з сабой аднаго з сужэнцаў... Адсюль лацінская прымаўка: "Mense Maio malae nubent" – "Дрэнна, што яны жэняцца ў маі месяцы".*

*Звязаныя з вяселлем забабоны супярэчаць хрысціянскаму разуменню сакраманту сужэнства. Яны трымаюцца на невуцтве, а значная іх частка мае паганскае паходжанне. Любы забабон распаўсюджваецца, як вірус – самастойна, без асаблівых намаганняў. Спачатку ён робіцца модным, а затым абавязковым. А чаму? Таму што забабон – гэта грэх. Хіба сямейнае шчасце залежыць ад канкрэтнага месяца? Не! Тым не менш такія забабоны – выдатны спосаб уцячы ад рэальнасці.*

*Як хрысціяне мы павінны добра ўсведамляць, што "ніхто не можа служыць двум гаспадарам" (Мц 6, 24). Езус казаў: "Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас" (Ян 8, 32). Праўда Хрыстова робіць чалавека свабодным не толькі ад грахоў, але і ад непатрэбных, шкодных забабонаў.*

*Для шчаслівага сямейнага жыцця важнымі з'яўляюцца цнатлівасць, вернасць, давер адзін аднаму, гатоўнасць даравацць і прымаць іншы пункт гледжання, уменне ісці на кампрамісы і разам духоўна ды інтэлектуальна развівацца.*

*А для католікаў май – прыгожы Марыйны месяц, які з'яўляецца вельмі добрай нагодай, каб дaручыць Маці Божай сваё сужэнскае жыццё.*

ЭКАЛОГІЯ СУЖЭНСТВА



*Вераніка Рогач – каталічка, шчаслівая жонка і маці траіх дзяцей, псіхолаг і сямейны кансультант. Разам з мужам распрацавала і вядзе курс па навучанні сімптатэрмальнаму метаду распазнавання плоднасці. Звярнуцца за інфармацыяй або кансультацыяй можна праз акаунт жанчыны ў Instagram* ***@veronikarogach*** *(сямейны псіхолаг).*

# МЕТАДЫ РАСПАЗНАВАННЯ ПЛОДНАСЦІ: ДЫЯЛОГ ДВУХ ЛЮБЯЧЫХ СЭРЦАЎ

працяг са с. 1

Працуючы з сем’ямі і маладымі парамі, часта сустракаюся з несвядомасцю і нежаданнем браць на сябе адказнасць за сваё жыццё. Але пэўны досвед і веды дапамагаюць паглядзець па-іншаму на сябе і сужэнца, паглядзець сапраўды і з любоўю. Адным з важных аспектаў сямейнага жыцця ў праўдзе адзін перад адным з’яўляюцца метады распазнавання плоднасці.

Метады распазнавання плоднасці – гэта не проста фізіялогія і выкананне правіл. Гэта стыль жыцця, які адкрывае перад сужэнцамі пэўныя гарызонты адносін, вядзе да пазнання адзін аднаго і поўнага ўзаемнага даверу. Дыялог – вось тое, што ўзнікае ў сем’ях, якія ідуць шляхам жыцця згодна з прыродай.

Дыялог двух любячых сэрцаў у такіх сем’ях выглядае прыкладна так:

***– Дарагая, я паважаю тваю плоднасць, тваю фізіялогію, тваю жаночую сутнасць, якую стварыў Бог.***

***– Дарагі, я паважаю цябе. Я ўдзячная, што ты прымаеш мяне той жанчынай, якой мяне стварыў Бог.***

***– Каханая, я не хачу, каб ты жыла ў страху перад зачаццем, а разам з тым у страху перад шлюбнай блізкасцю.***

***– Каханы, я шчыра радуюся, што наша блізкасць адкрытая, без страху і перашкод, я чакаю нашых сустрэч і хачу быць з табой у адзінстве душы і цела.***

***– Мая жонка, кахаю цябе, таму не дазволю табе прымаць тое, што забівае тваю плоднасць і жаноцкасць.***

***– Мой муж, дзякуй, што ты клапоцішся пра мяне, пра маё здароўе, я адчуваю гэта і вельмі шаную.***

***– Родная, я бяру на сябе адказнасць за кожнае наша зачатае дзіця, я паважаю яго і хачу, каб яно прыйшло ў лепшы для нашай сям’і час.***

***– Родны, побач з табой я адчуваю сябе сапраўднай жанчынай, бо магу быць слабой, аддаючы апошняе слова ў вырашэнні важных пытанняў у тваё моцныя рукі.***

***– Адзіная мая, я бязмежна табе давяраю і аддаю табе сваю душу і цела.***

***– Адзіны мой, я бязмежна табе давяраю і аддаю табе сваю душу і цела.***

Жыць у згодзе з сабой і задумай Творцы – радасць на ўсё жыццё, якая памнажае каханне, давер, павагу. Але чаму, калі ўсё так прыгожа і гладка, няшмат сем’яў выбірае гэтую радасць на ўсё жыццё?

Па-першае, страх адказнасці. Складана ўзяць на сябе адказнасць за сваё жыццё, бо ўсе дзеянні і выбары нясуць наступствы – добрыя і не. Лягчэй жыць “заплюшчыўшы вочы”, скідваючы адказнасць на знешні свет. Бо калі не бяру адказнасць, тады і наступствы мяне не датычацца. Як часта чую – “няма іншага выбару, акрамя кантрацэпцыі”. Пачынаю тлумачыць і сутыкаюся з тым, што чалавек не гатовы жыць



уласным жыццём, хоча “як усе”, не хоча размаўляць з сужэнцам, бо прызвычаіўся. Зрабіць нешта новае – гэта выйсці з “зоны камфорту” і паглядзець на сваё сужэнства ў праўдзе. Праўда заўсёды адна. Ёсць двое дарослых людзей, якія стварылі сям’ю. Яны любяць адзін аднаго. Іх любоўў можа нарадзіць новае жыццё. Гэта факт, мы так створаны. Сужэнская плоднасць – сумесная, але не аднолькавая – гэта здольнасць мужчыны і жанчыны да перадачы жыцця. Калі не ўдавацца ў падрабязнасці, то сумесная плоднасць працягваецца мінімум 6 дзён. Гэта той час, калі сужэнцы могуць стаць бацькамі. Бог так мудра прыдумаў, што не ў кожную інтымную блізкасць муж і жонка могуць стаць мамай і татам. Трэба толькі навучыцца распазнаваць прыкметы плоднасці, якія арганізм дае жанчыне.

Па-другое, каб навучыцца метадам распазнавання плоднасці і ўпэўнена імі карыстацца, патрэбны час і высілак. Але сёння людзі не маюць часу, бо мы кудысьці спяшаемся, мітусімся, жывём часта несвядома. Калі сапраўды нам штосьці важна, мы знойдзем час: на любімы фільм, сустрэчу з сябрамі, адпачынак. Аднак калі не разумеем важнасці нечага, то і будзем адкладваць ці ўцякаць. Так, навучанне займае час, бо трэба зразумець, як працуе фізіялогія плоднасці мужчыны і жанчыны, адкрыць паступова ўсе таямніцы метаду і ўкараніць іх у жыццё. Калі хочам навучыцца кіраваць аўтамабілем, то ідзём у аўташколу, вучым правілы дарожнага руху, потым з інструктарам вучымся на аўтадроме, у горадзе, пасля экзамены – і толькі пры паспяховай здачы можам кіраваць аўтамабілем самастойна. Вывучаючы метады распазнавання плоднасці, сустракаемся з большай адказнасцю, чым упраўленне аўтамабілем. Сустракаемся з адказнасцю перад новым жыццём. Каб яна была не цяжарам, а радасцю, патрэбны час і канкрэтныя крокі ў навучанні.

Бог кліча кожнае сужэнства да шчаслівага жыцця. Бог кліча кожнага з нас жыць у згодзе з сабой, адзін з адным і з прыродай. Бог нас цудоўна стварыў, каб мы маглі жыць разам і атрымліваць асалоду ад прабывання ў адзінстве душы і цела.

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч, святар рымска-каталіцкага абраду*

***15 мая – каментарый да Літургіі слова на V Велікодную нядзелю*** *(Дз 14, 21–27; Ап 21, 1–5; Ян 13, 31–35)*

## Жыць любоўю

*Літургія слова V Велікоднай нядзелі запрашае нас зірнуць на сваё жыццё зусім інакш, чым раней, асабліва на адносіны з іншымі людзьмі. Езус, звяртаючыся да сваіх вучняў, а значыць і да нас, словам “дзеці”, гаворыць вельмі ласкава і цёпла, падкрэсліваючы, што для Яго кожны важны. Ён развітваецца са сваімі вучнямі, бо праз некалькі гадзін, паміраючы на крыжы, перажыве драму адзіноты, адсутнасці іншага чалавека, і таму пакідае нам запаведзь любові.*

*Адзін з самых цяжкіх момантаў у жыцці асобы – гэта адзінота. Мы часта баімся яе, асабліва калі нейкім чынам на яе асуджаныя. У такіх сітуацыях мы таксама можам уцякаць ад сяброўства з Богам, а Езус, кажучы “Новую запаведзь даю вам, каб вы любілі адзін аднаго” (Ян 13, 34), запрашае нас ніколі не адчуваць сябе самотнымі, таму што ў нашым жыцці заўсёды прысутнічае Бог.*

*Гэтая запаведзь любові з’яўляецца Яго дарам, таму што любоў, якую Ён дае нам, – гэта Ён сам. Тады нават жыццё, пражытае ў адзіноце, не будзе адзінотай, таму што будзе жыццём з Хрыстом. Любіць адзін аднаго – значыць вучыцца любові Хрыста, таму што Езус заахвочвае нас мець такую любоў, якую Бог Айцец мае да Яго і якую Ён сам мае да нас. Многія скажуць, што гэта немагчыма, але Езус заклікае нас праяўляць павагу да іншых. Вобразна кажучы, заахвочвае ўмець заўважыць іншага і падаць яму кубак вады, калі гэта патрэбна.*

*Такое стаўленне патрабуе ў нашым жыцці шукання Хрыста, таму што кожны з нас прагне гэтай любові, як лань, якая шукае вады з ручая. Мы прагнем яе, каб падзяліцца ёю з іншымі. Тывайма ў навучанні Езуса. Няхай Эўхарыстыя заўсёды будзе нашай дапамогай і арыенцірам. Падчас яе мы сілкуемся любоўю Хрыста, каб самі маглі жыць гэтай любоўю.*

*А. Андрэй Крот, святар грэка-каталіцкага абраду*

***22 мая – каментарый да першага чытання на VI Велікодную нядзелю*** *(Дз 15, 1–2. 22–29)*

## Царква і сінадальнасць

*Царква – гэта супольнасць, якая ўвесь час вучыцца. У чытанні з Дзеяў апосталаў мы чуем, як Царква вучыцца вырашаць крызісы. Крызіс узнік з-за таго, што некаторыя хрысціяне, што паходзілі з юдэяў, пачынаюць вучыць былых язычнікаў пра неабходнасць выканання ўсяго закону Майсея. “Калі распачалася немалая спрэчка і змаганне Паўла і Барнабы з імі, было вырашана, што Павел і Барнаба, і некаторыя іншыя з іх пойдуць у гэтай справе да Апосталаў і старэйшых у Ерусалім. Тады Апосталы і старэйшыны разам з усёй Царквой, выбраўшы сярод сябе Юду, званага Барсабам, і Сілу – мужоў, якія былі першымі сярод братоў, вырашылі паслаць іх у Антыёхію з Паўлам і Барнабаю” (Дз 15, 2. 22).*

*У вырашэнні крызісу прымаюць удзел Апосталы, старэйшыны і ўся супольнасць вучняў Хрыста. Сёння называем такі шлях сінадальным, і да яго вяртаецца Каталіцкая Царква. Напрыклад, калі ў межах падрыхтоўкі да Сінода біскупаў 2023 года праходзіў дыяцэзіяльны этап, кожны жадаючы мог прыняць у ім удзел, запоўніўшы спецыяльную анкету. Мы ўсе – вернікі, святары ды біскупы – адказны за лёс Царквы.*

*У Царкве візантыйскай традыцыі сінадальнасць спрадвеку займала вельмі важнае месца. Нездарма першыя сусветныя саборы адбываліся на хрысціянскім Усходзе. У сярэднявечным Канстанцінопалі тэалагічныя пытанні абмяркоўваліся не толькі вучонымі-багасловамі ў акадэмічных залах, але і звычайнымі гараджанамі на плошчах і рынках. На жаль, часам гэтая сінадальнасць набывала хваравітыя формы, калі большасць прымала ерэтычную дактрыну і натоўп выганяў з храмаў тых святароў ці біскупаў, якія абвяшчалі праўдзівую навуку. Таму так важна трыванне ў навуцы Апосталаў ды суладдзі (па-грэчаску – сінэргія) паміж свецкімі ды духавенствам.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РЭДАКТАРУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю, а Збаўца вядзе Вас цудоўнай святарскай дарогай. Жадаем моцнага здароўя, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і бласлаўлення ад Пана Езуса.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ СТАНІСЛАВУ ПЫТЭЛЮ**

*з нагоды імянін жадаем Божага бласлаўлення на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, сілы, стойкасці і нязгаснага запалу ў працы на ніве Пана. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, а Маці Божая адорыць цяплом і ласкавасцю свайго сэрца.*

*З малітвай члены Апастальства дапамогі чысцовым душам з Васілішкаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ СТАНІСЛАВУ ЛАБАНУ**

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, шчодрых дароў і ласкаў Божых, а таксама апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы.*

*З малітвай члены Апастальства дапамогі чысцовым душам з Беняконяў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІТАЛЮ ПЯТКЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: штодзённага бласлаўлення ад Езуса Хрыста, моцнага здароўя, сілы, мудрасці і цярплівасці на святарскім шляху, на які Вас паклікаў усемагутны Бог. Няхай міласэрны Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, Святы Дух няспынна спасылае свае дары, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае любоўю і апекай.*

*Сям'я Лопушак*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ СЯМІНСКАМУ**

*з нагоды імянін і надыходзячага дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і патрэбных Божых ласкаў на кожны дзень.*

*Вернікі парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Кемелішкі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ СТАНІСЛАВУ ЛАБАНУ**

*з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай святы заступнік штодзённа Вамі апекуецца, Маці Божая ахінае сваім мацярынскім плашчом, усемагутны Бог шчодра адорвае сваімі ласкамі, а Святы Дух напаўняе дарамі кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі.*

*Сям'я Станеўскіх з Гродна*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ АГЕЛЮ**

*з нагоды 20-ай гадавіны святарскай паслугі і дня нараджэння складаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай здароўе будзе моцным, творчыя сілы – бясконцымі, а радасць ад плёну працы – штодзённай. Няхай Вас заўсёды асвятляюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Панны Марыі, Езус валадарыць у сэрцы і адорвае патрэбнымі ласкамі, а святыя заступнікі нястомна апекуюцца Вамі. Дзякуем за шчырыя малітвы, адкрытае сэрца, зычлівасць, дабрыню, цярплівасць, цудоўную ўсмешку, а таксама за клопат пра людзей і касцёл.*

*Сям'я Снапко, Ліда-Індустрыяльны*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ РАМАНОЎСКАМУ**

*з нагоды імянін жадаем добрага здароўя на доўгія гады, сіл і цярплівасці. Жадаем заўсёды быць з малітвай, несці свет Божай любові ўсім людзям, якія гэтага патрабуюць. Няхай Ваша добрае і чулае сэрца будзе перапоўнена радасцю, любоўю і верай, а сіла Божага слова дапамагае быць мудрым правадніком на дарозе святарства. Няхай святы заступнік накіроўвае Вашы крокі туды, дзе пануе нявер'е, каб Вы неслі людзям веру і надзею. Заставайцеся заўсёды такім добрым і чулым святаром з вялікім сэрцам.*

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, Гродна-Паўднёвы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ УРБАНУ**

*з нагоды дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскага пасвячэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе асвечаны прамянямі Божай міласэрнасці, Маці Божая апекуецца Вамі і атуляе цяплом свайго сэрца, Езус Хрыстус напаўняе радасцю, любоўю і спакоем, а Святы Дух апраменьвае святлом і шчодра ўдзяляе свае дары. Жадаем таксама моцнага здароўя, аптымізму, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## Паважаныя Чытачы!

Падтрымаць газету матэрыяльна ці даслаць ахвяраванне за віншаванні можна шляхам электроннага паштовага перавода на адрас рэдакцыі: ***230025 г. Гродна, вул. К. Маркса, 4 – на імя кс. Марціновіча Ю. Т.***

*Ваша падтрымка вельмі важная для газеты. Аддзяч Вам, Божа!*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Адышоў у вечнасць Станіслаў Шушкевіч – вядомы беларускі вучоны, палітычны і грамадскі дзеяч, які прычыніўся да вяртання каталіцкіх святынь вернікам. Сярод іх – катэдральнага касцёла Найсвяцейшага імя Марыі і касцёла святых Сымона і Алены (Чырвонага касцёла) у Мінску.

Быў сынам беларускага пісьменніка Станіслава Шушкевіча, рэпрэсіраванага савецкімі ўладамі. Займаўся фізіка-матэматычнымі навукамі і ядзернай фізікай. Быў народным дэпутатам СССР і БССР. 18 кастрычніка 1991 года Станіслаў Шушкевіч быў абраны старшынёй Вярхоўнага Савета і стаў фактычна першым лідарам незалежнай Беларусі, якая ў той час была парламенцкай рэспублікай.

Спадар Станіслаў адышоў у вечнае жыццё 3 мая ў Мінску, маючы 87 гадоў. Вечны супакой дай яму, Пане...




**каталіцкі рэлігійны часопіс**

"А Я вам кажу: не адплачвайце злому. Калі хто ўдарыць цябе па правай шчацэ тваёй, падстаў яму і другую" (Мц 5, 39).

Гэтае правіла не трэба разумець у тым сэнсе, што Езус забараняе самаабараняцца і загадвае, каб хрысціянін кожны раз падстаўляў сваю галаву. Езус сам атрымаў па твары падчас праслухоўвання ў Анны. Ці падставіў другую шчаку? Не! Таму, хто біў, Ён задаў пытанне: "Калі Я дрэнна сказаў, дакажы, што дрэнна, а калі добра, то чаму б'еш Мяне?". Не ў тым справа, каб падстаўляць твар для біцця, але каб чалавеку, што прымяняе фізічную сілу, супрацьпаставіць магутнасць маральнай сілы, якая нашмат мацнейшая за фізічны гвалт. "Бласлаўлёныя ціхія, таму што яны ўнаследуюць зямлю". Езус даказаў, што маральная сіла нашмат мацнейшая за гвалт.




**беларуская рэдакцыя**

Папа распавёў пра намаганні, якія прыкладвае разам з кардыналам П'етра Паралінам, Дзяржаўным сакратаром, для спынення ваенных дзеянняў ва Украіне. У першы дзень вайны ён тэлефанаваў Зяленскаму. Пасля пайшоў да расійскага пасла пры Ватыкане, каб прасіць аб тлумачэннях і заклікаць да міру. Затым у Крэмль было накіравана паведамленне з просьбай аб сустрэчы з Уладзімірам Пуціным у Маскве. Аднак адказу дагэтуль няма.

Пантыфік распавёў пра сваю 40-хвілінную размову ў Патрыярхам Кірылам. "Першыя дваццаць хвілін ён з лістком у руцэ прадстаўляў мне ўсе апраўданні для вайны. Я выслухаў яго і сказаў: нічога з гэтага не разумею. Браце, мы не дзяржаўныя служачыя, мы не можам карыстацца мовай палітыкі, а павінны выкарыстоўваць мову Езуса".




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

1 мая ў санктуарыі Гродзенскай дыяцэзіі Маці Божай Каралевы нашых сем'яў у Тракелях адбыліся галоўныя святкаванні Дыяцэзіяльнага дня маці.

У гэты дзень шмат вернікаў з розных куткоў дыяцэзіі прыбылі ў тракельскую святыню, каб памаліцца за самага блізкага чалавека – сваю маму. Некаторыя прыйшлі пешкі з Ліды, а таксама з іншых месцаў.

Кульмінацыяй святкаванняў была св. Імша, якую цэлебраваў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч у інтэнцыі ўсіх маці дыяцэзіі: як жывых, так і тых, хто ўжо адышоў у вечнасць.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня"**, 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.